

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

№13 (249) ВЕРАСЕНЬ 2018 ГОД


РЫНАК ПРАЦЫ

## ВАКАНСІІ ЁСЦЬ, А ЗАРОБКІ СІМВАЛІЧНЫЯ

**На пачатак верасня ў Шумілінскім раёне налічваецца больш за 80 вакансій, патрабуюцца рабочыя і спецыялісты ў розных сферах дзейнасці.**

У Шумілінскай раённай бальніцы па-ранейшаму адчуваецца дэфіцыт дактароў і малодшага медперсанала. Сюды запрашаюць на работу ўрача-спецыяліста з вышэйшай адукацыяй з акладам у 550 рублёў, медычную сястру-спецыяліста з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй (350 руб.), фельчара з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй (500 руб.).

Шумілінскаму тэрытарыяльнаму Цэнтру сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва патрабуюцца два сацыяльных работнікі. Адзін з сярэдняй адукацыяй у аграгарадок Мікіціху (ад 305 руб.), а другі з сярэдняй адукацыяй будзе працаваць у гарпасёлку Шуміліна на 0,5 стаўкі (152 руб.). Таксама ў тэрытарыяльны Цэнтр патрабуецца загадчык аддзела сацыяльнага абслугоўвання ( на месца працы ў аграгарадок Мішневічы з акладам у 396 рублёў)

Сельскай гаспадарцы раёна неабходны як рабочыя спецыяльнасці, так і высокакваліфікаваныя кадры.

У гаспадарку «Прыазёрны мір» патрабуецца аграном, якому прапануюць аклад у 350 рублёў. У калгасе «Прыдзвінскім» шукаюць двух аператараў машыннага даення, якім абяцаюць заробкі па 305 руб., яшчэ адзін зможа ўладкавацца на працу ў Шумілінскім "Райаграсервісе" (заробак 350 руб.)

У «Сіроцінскі» неабходны брыгадзір вытворчай брыгады ў раслінаводстве і жывёлагадоўлі з акладам у 305 рублёў. Апроч таго, гэтая гаспадарка мае патрэбу ў вадзіцелі аўтамабіля (350 руб.) Раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях таксама шукае вадзіцеля (500 руб.), дыспетчара пажарнай сувязі (500 руб.), камандзіра аддзела (500 руб.)

У Цэнтры інфармацыйных сыстэм у жывелагадоўлі (рабочае месца ў Шуміліне) патрабуецца вядучы ветэрынарны ўрач з сярэдняй адукацый і вопытам работы не менш за два гады. Аклад — 520 рублёў.

У райвыканкаме ў аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі прапануюць звярнуцца на працу бібліятэкару з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, якому абяцаюць зарплату ў 305 руб. Маецца свабодна вакансія музычнага кіраўніка з сярэдняй адуацыяй (ад 320 руб.). Да таго ж райвыканкам мае патрэбу ў інжынеры-тэплатэхніку з вышэйшай адукацыяй (аклад 350 руб.), сацыяльным педагогу з вышэйшай адуацыяй (370 руб.), выхавацелі (адукацыя вышэйшая, 370 руб.), намесніку кіраўніка арганізацыі па ідэалагічнай рабоце (адукацыя вышэйшая, 338 руб.).

У камбінат бытавого абслугоўвання неабходны трактарыст (305 руб.), адзін трактарыст-машыніст сельскагаспадарчай вытворчасці патрабуецца ў саўгас «Сіроцінскі» (305 руб.)

Жылёва-камунальная гаспадарка гаспадарка прымае на працу двух вадзіцеляў (заробкі па 400 руб.), машыніста (качагара) кацельнай з агульнасярэдняй адукацыяй (350 руб.), электрагазазваршчыка з агульнасярэдняй адукацыяй (400 руб.), машыніста бульдозера (350 руб.), аператара кацельнай (400 руб.), электраманцёра па рамонту і абслугоўванню электраабсталявання з прафесійна-тэхнічнай адукацыяй (400 руб.).

Прадпрыемства меліярацыйных сістэм чакае на працу інжынера-гідратэхніка з вышэйшай адукацыяй (500 руб.), інжынера па арганізацыі кіраванню вытворчасцю, адукацыя вышэйшая (500 руб.), майстра з вышэйшай адукацыяй (550 руб.), машыніста экскаватара, адукацыя прафесійна-тэхнічная (400 руб.)

На сённяшні дзень раёну вострa не хапае бухгалтараў. Бухгалтары патрабуюцца ў саўгас «Мішневічы» з зарплатай у 310 руб., сялянска-фермерскую гаспадарку «Раднік» (310 руб.), у «Прыдзвінскі» (310 руб.), у саўгас «Ульскі» ( 500 руб.), у «Прыазёрны мір» (350 руб.) і "Шумілінскае ПМС (320 руб.)

Варта адзначыць, што самая высокая зарплата з усіх прапануемых вакансій — 550 рублёў, а самая нізкая — 152 рублі. А гэта зусім сціплыя паказчыкі ад тых завоблачных лічбаў у 500, 700 і нават 1000 долараў, якія пастаянна абяцаюць кіраўнікі Беларусі на дзяржаўных тэлеканалах.

**Алесь Шумскі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

АДУКАЦЫЯ

## АГРАРНЫЯ КЛАСЫ І ПРАФЕСІЙНАЕ НАВУЧАННЕ

**Аграрныя класы адкрылі ў новым навучальным годзе ў Шумілінскай раённай гімназіі-інтэрнаце ў Лескавічы і Кардонскай школе. Іх выпускнікі будуць арыентаваныя на паступленне ў сярэднія спецыяльныя ці вышэйшыя навучальныя ўстановы па сельскагаспадарчым профілі.**

Паводле начальніка аддзела па адукацыі Шумілінскага райвыканкама Валянціны Мяньковай, навучанне ў гэтым класе будзе весціся ў цесным супрацоўніцтве з Віцебскай акадэміяй ветэрынарнай медыцыны, з улікам яе метадычных рэкамендацый. Есць спадзяванні, што ў далейшым хлопцы аддадуць перавагу сельскагаспадарчым прафесіям.

Якія перавагі будуць мець выпускнікі гэтых класаў? Намеснік дырэктара гімназіі Наталля Саўчанка расказала, што ў агракласе будуць навучацца 9 чалавек. Веды па такіх школьных прадметах, як матэматыка, фізіка, хімія і біялогія вучні агракласа будуць атрымліваць на павышаным узроўні.

На базе гэтай гімназіі ёсць і педагагічны клас. І тут ганарацца тым, што яго выпускнікі абралі прафесію педагога.

Валянціна Васільеўна адзначыла таксама, што ў гэтым годзе ў раёне працэнт паступлення ў ВНУ вышэй, чым у 2017-м: 58,8 супраць 51,4. Прычым з 67 рабят 77,6% прайшлі на бюджэт. Шумілінскія выпускнікі гэтага года паступілі ў БДУ, БДУІР, лінгвістычны, тэхнічны, медыцынскі і іншыя універсітэты. Гэта звязана з тым, што пасля базавай школы ў 10-х класах засталіся тыя, хто быў матываваны на паступленне ў ВНУ.

Больш поўнае ўяўленне пра сельскагаспадарчыя спецыяльнасці старшакласнікі атрымаюць у час факультатыўных заняткаў «Увядзенне

Агракласадкрыўсяінабазе Кардонскай школы.

Яшчэ адно сур'ёзнае новаўвядзенне ў сістэме адукацыі гэтага года — прафесійнае навучанне старшакласнікаў.

Пад працоўнае навучанне выдзелена 6 гадзін на тыдзень. Сярэднія школы раёна — СШ № 1, СШ № 2, Обальская і Мікіціхінская — маюць дастатковую матэрыяльна-тэхнічную базу для таго, каб ажыццяўляць такую работу. На базе СШ № 1 дзеці з абедзвюх шумілінскіх школ будуць вучыцца на швачак і аператараў ЭВМ. Такія ж прафесіі прапанавалі і мікіціхінскім вучням. А ў Обальскай школе вучні змогуць авалодаць прафесіямі швачкі і садавода.

Усяго прафесійным навучаннем на базе сярэдніх школ будзе ахоплена амаль 30 вучняў Пасля заканчэнні вучобы дзеці здадуць кваліфікацыйны экзамен з прысваеннем разраду.

ПАКАРАННЕ

## НЕ АПЛАЦІЛІ ЗБОР

**У Шумілінскім раёне выяўлены арганізацыі, якія несвоечасова аплацілі за збор адходаў тавараў і ўпакоўкі.**

КДК выявіў, што шэраг суб'ектаў гаспадарання Віцебска, а таксама Шумілінскага і Докшыцкага раёнаў несвоечасова плаціў за збор адходаў тавараў і упакоўкі аператару другасных рэсурсаў, таму іх аштрафавалі больш чым на 800 000 рублёў.

Юрыдычныя асобы ў Беларусі могуць арганізаваць уласную сістэму збору адходаў альбо заключыць з аператарам другасных рэсурсаў адпаведны дагавор, якім прадугледжваецца ўнясенне на банкаўскі рахунак аператара не пазней 22 чысла месяца, наступнага за справаздачным кварталам, платы за арганізацыю збору, абясшкоджвання або выкарыстання адходаў тавараў і адходаў упакоўкі.

За невыкананне гэтага абавязку прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў двухразовым памеры платы за паслугу. У Віцебскай вобласці было выяўлена 6 парушэнняў заканадаўства аб абыходжанні з адходамі. Па выніках праверкі арганізацыі прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу на агульную суму больш за 800 000 рублёў.

Грошы, якія паступаюць на рахунак аператара, накіроўваюцца у тым ліку на кампенсацыю расходаў па зборы на тэрыторыі Беларусі адходаў тавараў і адходаў упакоўкі, на выкананне дзяржаўных праграм па абыходжанні з адходамі, укараненне новых тэхналогій збору і выкарыстання адходаў у якасці другаснай сыравіны, будаўніцтва заводаў па сартаванні і выкарыстанні камунальных адходаў і другасных матэрыяльных рэсурсаў, звяртае ўвагу прэс-служба КДК.

**Ян Вайтовіч**

ПАМЯЦЬ

## ПАСТАР ШУКАЕ ЗЕМЛЯКОЎ

**Пастар англіканскай царквы з Новай Зеландыі Піцер, продкі якога па лініі маці – Тарбеева, нашчадкавыя дваране, прыляцеў 6 верасня ў Беларусь, каб убачыць месцы, дзе нарадзіліся і выраслі яго продкі.**

Тарбеева да 1917 году валодалі маёнткам "Екатерингоф" ў Гарадоцкім павеце Віцебскай губерні, якое ўключала ў сябе тры вёскі – Пузанава, Мішкі і Паддуб'е.

Першай у Новую Зеландыю яшчэ да 1917 году з'ехала бабуля Піцера – Марыя Іванаўна, якая выйшла замуж за ангельца і паехала за мужам. Услед за ёй адправіўся яе бацька, прадзед Піцера – Іван Міхайлавіч Тарбееў. У

***(працяг на стр. 2)***

## ПАМЯЦЬ

*(пачатак на стр. 1)*
Гарадоцкім раёне засталіся яго родныя брат і сёстры: Георгій (1877 года нараджэння), Марыя (1863 г.н.) і Надзея (1866 г.н.). Пасля 1917-га ў Івана Міхайлавіча сувязь з роднымі абарвалася.

Па просьбе Піцера лёс яго сям'і і маёнткі ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ўжо ведаў усё гісторык Аляксей Войткун. Высветлілася, што сядзіба "Екатерингоф" уяўляла сабой аднапавярховы дом, у якім пражываў Георгій Міхайлавіч Тарбееў з сямю членамі сям'і, і што з 1 верасня 1920-га ён тры гады працаваў у Паддубскай школе. Далей сляды Георгія Міхайлавіча губляюцца. У матэрыялах Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1926 года хутар "Екатерингоф" значыцца, але Тарбеева ў спісе жыхароў няма. Затое зараз гэтае прозвішча ёсць у суседніх вёсках.

– Сёння шмат Тарбеевых пражывае ў Шумілінскім раёне, і Піцер шчыра спадзяецца на сустрэчу з імі, – паведаміла начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Шумілінскага райвыканкама Валянціна Навіцкая. – Калі ў вас ёсць знаёмыя Торбеевы або Тарбеевы альбо хтосьці распавядаў пра Георгія Міхайлавіча Торбеева, настаўніка геаграфіі ці рускай мовы Паддубскай сярэдняй школы, паведаміце пра гэта ў наш аддзел асабіста або па тэлефоне 8 (02130) 4-29-70.

**vitvesti**

## ГІСТОРЫЯ

# ТУТ ЖЫЛІ ВІКІНГІ

**Некалькі гадоў таму навукоўца Вольга Ляўко прыступіла да вывучэння Кардона Віцебскага Падзвіння – найважнейшага для Усходняй Еўропы археалагічнага комплексу, які датуецца VIII - X стагоддзямі нашай эры. У выніку яна даказала: на тэрыторыі Кардона жылі самыя сапраўдныя вікінгі.**

Паводле Вольгі Ляўко, паўночныя народы, праязджаючы праз нашу тэрыторыю транзітам у Візантыю па Дняпры і яе буйным прытоках, асядалі на нашай тэрыторыі і пачыналі ўзаемадзейнічаць з поліэтнічным насельніцтвам гэтых земляў.

Вікінгі вялі тут гандлёвую дзейнасць, вучылі ў мясцовых ювелірнай справе. Як было ўстаноўлена, што менавіта скандынавы аселі тут, а не былі праездам?

Справа ў тым, што, акрамя манет, гірак-разнаважак і скандынаўскіх металічных зашпілек-фібул, якія апраналі на плашчы, не так даўно было знойдзена два «малаточка Тора». А гэта ёсць падвеска-амулет, якую насілі выключна скандынавы. Гэтыя амулеты не прадаваліся, не абменьваліся, не дарыліся: як абярэг яны належалі толькі прадстаўнікам паўночных народаў. Усё гэта ў комплексе – «малаточкі Тора», фібула, скандынаўская іголка з арнаментам «воўчы зуб» – і далі падставы казаць пра тое, што знаходжанне вікінгаў на тэрыторыі Беларусі і Шуміліншчыны было не эпізадычным, транзітным, а пастаянным.

**М. Амбросаў**

## ТАКАЯ ГІСТОРЫЯ

# ЗЕМЛЯРОБЧАЯ КАЛОНІЯ

**Гісторыя пра тое, як зняволеныя ў Лескавічах саўгас у парадак прывялі. Але ж былі і «шаптуны, якія прарочылі забойства, і канакрадства, і крадзеж»**

Аб унікальных славутасцях вёскі Лескавічы ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці напісана нямала. Менавіта ў гэтым населеным пункце і сёння можна ўбачыць помнік архітэктуры нэарускага стылю Свята-Сергіеўскі храм і руіны так званага замка Хлюдзінскіх.

Але мала хто ведае, што 1920-1930-х гадах тут дзейнічала земляробчая калонія для пазбаўленых волі. Унікальную інфармацыю пра гэта ў Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці адшукала вядучы архівіст Святлана Мясаедава. Што нам вядома аб гэтым папраўчай установе?

Фізічная праца абавязкова для зняволеных.

На 20 жніўня 1921 года ў Віцебскім губернскім папраўча-працоўным доме (губвыпраўдоме) знаходзілася да 700 чалавек. Каля 30% з іх былі занятыя працамі на сенажацях і ў сталярнай, шавецкай, порняжной і кавальскай майстэрняў. Большасць зняволеных з сялян не мелі спецыяльнасці, таму сядзелі без справы.

У той жа час лічылася, што злачынцаў неабходна выпраўляць з дапамогай ізаляцыі ад грамадства і прыцягнення да здаровага фізічнай працы. Таму губвыпраўдом і звярнуўся ў губсаўгас з просьбай даць ім якую-небудзь гаспадарку недалёка ад горада, каб пазбаўленыя свабоды людзі змаглі там працаваць.

У адказ на гэтую просьбу 22 сакавіка 1922 года Віцебска губернскае зямельнае кіраванне выдаткоўвала выпраўдому саўгас Ляскавічы, на тэрыторыі якога была арганізавана земляробчая калонія.

Зняволеныя прывялі паўразбураны саўгас у парадак.

У папраўча-працоўнай сельскагаспадарчай калоніі «Лескавічы» меркавалася размясціць да 200 чалавек. Гэта павінны былі быць зняволеныя з разраду узорных і выпраўляць, а тэрмін іх пакарання не павінен быў перавышаць трох гадоў.

Планавалася, што яны будуць займацца паляводства, агародніцтвам і жывёлагадоўляй.

Першапачаткова мясцовыя сяляне спалохаліся, што іх саўгас будзе перададзены адбываючым пакаранне людзям.

Газета «Весткі Віцебскага губвыканкама і губкама РКП (б)» у той час пісала:

«Знайшліся шаптуны, якія прарочылі забойства і канакрадства, і крадзеж».

Аднак зняволеныя хутка прывялі ў парадак паўразбураны саўгас: не толькі ўзаралі і засеялі зямлю, але і арганізавалі кавальскую, сталярную і іншыя майстэрні, якія абслугоўвалі і сялян. Акрамя гэтага, пазбаўленыя свабоды дапамагалі мясцовым жыхарам будаваць дома і рабіць печы. Як такога турэмнага рэжыму «з карцэрам» ў калоніі не было.

Што ўяўляла сабой калонія?

У верасні 1922 года ў калоніі пражывалі 82 чалавекі. На кастрычнік таго ж года ў калоніі, разлічанай на 150 чалавек, было абсталявана 9 камер і распачата ўладкаванне бальніцы на 8 чалавек.

У штаце служачых значыліся дырэктар, аграном, фельчар, чатыры наглядчыкі, ахмістрыня, скотніца.

Размяшчалася калонія ў пяці вёрстах ад станцыі, бліжэйшы населены пункт – у вёсцы Смалькі.

На тэрыторыі знаходзіліся возера, дзве сажалкі, вартавыя вароты з жылым памяшканнем для вартаўніка і склепам пад ім, кузня, стайня, тры каменных дома, тры драўляных дома (адзін абкладзены цэглай), аранжарэя, садовы павільён, склеп, хлеў, свіран, пральня, лазня.

З пабудоў меўся яшчэ броварны завод (калоніі не належаў і не працаваў, паколькі не было абсталявання), каменныя сцены недабудаванага дома, недабудаваны палац і сцены згарэлага каменнага хлява. Таксама быў сад, які знаходзіўся ў моцна занядбаным стане. Калонія размяшчалася ў маёнтку да канца 1930-х гадоў.

Дарэчы, яшчэ ўлетку 1922 году загадчык Лескавіцкага валасным зямельным аддзелам пісаў, што маёнтак ўяўляе культурную каштоўнасць, таму добра захаваць яго ў цэласнасці. На жаль, гэтага не адбылося.

**vkurier.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

## ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# МАХЛЯРСТВА

**Чужога гора не бывае. Але і махляры не спяць — як жанчына з Язвіна паплацілася за сваю даверлівасць.**

У шумілінскую міліцыю звярнулася жыхарка вёскі Язвіна, калі з яе банкаўскай карткі зніклі грошы — 271 рубель. Але як потым высветлілася, пацярпелая сама паспрыяла махлярам.

Перадусім нехта адзіма знаёмай даслаў жанчыне на рэсурс «ВКонтакте» паведамлене пра матэрыяльныя праблемы і папрасіў пазычыць пэўную суму грошай. Расчуленая жанчына нават сфатаграфавала сваю банкаўскую картку і картку с кодамі інтэрнэт-банкінга. Маўляў, бяры сяброўка і карыстайся.

Як аказалася ў далейшым, карткай пакарысталіся зусім не знаёмыя пацярпелай. Па факту махлярства заведзена крымінальная справа па частцы 1 артыкула Крымінальнага кодэкса РБ «Крадзёж шляхам выкарыстання камп'ютарнай тэхнікі».

Зараз супрацоўнікамі міліцыі ўстанаўліваецца асоба махляра, якому пагражае штраф, або арышт, або абмежаванне волі да трох гадоў.

**Сяжук Крупскі**

# ПАКАРАННЕ ЗА ПАДПАЛ

**За падпал жылога дома ў вёсцы Мазурына Шумілінскага раёна 50-гадовую жанчыну прысудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі, прысуд уступіў у законную сілу.**

15 лютага яна выпівала ў знаёмага і пасварылася з ім. Калі той заснуў, сельчанка падпаліла веранду дома, дзе адбывалася папойка.

Агонь пачаў хутка распаўсюджвацца па памяшканні, падпальшчыца спалохалася і спрабавала патушыць пажар, але гэта ёй не ўдалося. Тады яна разбудзіла гаспадара жылля, а сама выбегла з палаючага дома і папрасіла суседзяў выклікаць пажарных.

Нягледзячы на аператыўныя дзеянні супрацоўнікаў Шумілінскага РАНС па тушэнні пажару – дом моцна пацярпеў ад агню, таксама была знішчана значная частка маёмасці. Агульная сума шкоды ад пажару склала 2000 рублёў.

І хаця жанчына дала следчым прызнальныя паказанні, на судзе яна вінаватай сябе не прызнала і адмаўляла здзяйсненне падпалу. Аднак была прызнана вінаватай у наўмысным знішчэнні маёмасці агульнанебяспечным спосабам і па частцы 2 артыкула 218 КК прысуджаная да 4 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

Суд апеляцыйнай інстанцыі пакінуў яе скаргу на прысуд суда першай інстанцыі без задавальнення. Прысуд уступіў у законную сілу.

**Сяржук Крупскі**

## ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

# СХОД У ОБАЛІ

**На сельскім сходзе у гарпасёлку Обаль адбылася сустрэча кіраўнікоў МНС з насельніцтвам**

Мерапрыемства праводзілі: намеснік начальніка ўстановы «Віцебскага абласное ўпраўленне МНС Рэспублікі Беларусь» Лутохін У.К. і начальнік Шумілінскага РАНС Сасновіч А.І.

Уладзімір Калінавіч падчас свайго выступу даvёў прысутным інфармацыю пра стан пажарнай бяспекі на тэрыторыі Віцебскай вобласці. Нагадаў аб недапушчальнасці дзіцячых свавольстваў з агнём, прывёў трагічныя прыклады дзіцячай гібелі і траўматызму. Распавёў прысутным пра мабільны дадатак «МНС Беларусі: Дапамога побач» і рэкамендаваў ўсталяваць яго на мабільныя тэлефоны.

Выратавальнік акцэнтаваў увагу і на меры пажарнай бяспекі пры абыходжанні з электрапрыборамі, пячным ацяпленнем. Уладзімір Калінавіч распавёў аб будаўніцтве «БелАЭС», увазе грамадзян быў прадстаўлены відэафільм «БелАЭС» з тлумачэннямі бяспекі дадзенага аб'екта.

Андрэй Іванавіч распавёў аб аператыўнай абстаноўцы з пажарамі і гібеллю людзей на тэрыторыі раёна. Падрабязна спыніўся на пажарах з гібеллю людзей, у тым ліку пра смерць дзіцяці на рацэ Заходняя Дзвіна недалёка ад вёскі Шыліна.

Напрыканцы мерапрыемства ратавальнікі адказалі на ўсе пытанні і заклікалі прысутных выконваць меры пажарнай бяспекі ў домаўладаннях і на працоўных месцах.

**Ян Вайтовіч**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання ящчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# УЛЬТЫМАТУМ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Расія будзе турбавацца, перш за ўсё, пра сябе. Саюзніку і стратэгічнаму партнёру давядзецца разлічваць на ўласныя сілы і не чакаць падтрымкі.**




Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін сустракаліся ў чэрвені — дзеля гэтага кіраўнік Расіі нават прапусціў матч сваёй зборнай з Егіптам на Чэмпіянаце свету па футболе. У ліпені Пуцін запрасіў беларускага калегу на сустрэчу. Той не ехаў амаль месяц, і ўрэшце выправіўся ў Сочы напрыканцы жніўня.

Варта звярнуць увагу на тое, што канкрэтнай інфармацыі па выніках гэтых рандэву — кату па пяту. Па выніках апошняй паездкі Лукашэнкі на пуцінскую яхту прэс-служба кіраўніка дзяржавы не рабіла ніякіх гучных заяў. Толькі праз тры дні Аляксандр Рыгоравіч даў маштабнае інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь-1».

Цалкам можа быць, што затрымка з інфармацыяй была адмысловым ходам: каб прыцягнуць да гэтага інтэрв'ю больш увагі. Але ж яно пакінула больш пытанняў, чым адказаў.

Многія заўважылі, што ці не ўпершыню Лукашэнка адказваў на пытанні журналістаў з паперкай — з гатовымі тэзісамі адказаў. Канешне, гэта звычайная практыка, калі кіраўніку такога ўзроўню спачатку дасылаюцца пісьмовыя пытанні, ён рыхтуе адказы і потым агучвае іх на камеру. Аднак гэта імкнуцца не афішаваць.

Апроч таго, ніякіх рэальных адказаў пра сустрэчу з Пуціным мы не атрымалі. Па сутнасці, інтэрв'ю выглядала апраўданнем беларускага кіраўніка за рэзкія словы, якія ён дазволіў сабе на адрас Расіі раней: «Без Расіі мы нікуды», «Мы — народы з аднаго кораня» і «Расія для Беларусі — анёл-абаронца». Але за салодкагалосай рыторыкай так і не было чуваць, што ж Лукашэнка і Пуцін абмяркоўвалі ў Сочы і чаму расійскі кіраўнік так доўга і ўпарта чакаў беларускага калегу.

Для таго, каб абмеркаваць кандыдатуру новага расійскага пасла? Гэта і аспрэчыў сам кіраўнік Беларусі, што было ці не адзіным сэнсоўным кавалкам яго размовы з тэлевізійшчыкамі.

Палітолагі і аналітыкі лічаць, што нешта на сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна «не зраслося» і «не склеілася». Але, мяркуючы па настойлівасці і цярплівасці Уладзіміра Уладзіміравіча і па наступнаму інтэрв'ю Аляксандра Рыгоравіча, «зрастацца і клеіцца» там не было чаму.

Хутчэй за ўсё, кіраўнік Расіі агучыў «новую эканамічную палітыку» ў адносінах да Беларусі, якая палягае ў словах: «Вучыцеся выжываць самі». Санкцыі ЕС і ЗША моцна б'юць па расійскай эканоміцы. І, падаецца, яны ўжо перакрочылі тую мяжу, калі іх можна было «адкаціць назад». Раней іх прычынай была вайна ва Украіне, а зараз фінансавыя абмежаванні ўводзяцца з-за «справы Скрыпалёў» і расійскага ўплыву на выбары ў заходніх дэмакратыях.

Калі раней можна было вярнуць Крым Украіне і сказаць: «Выбачаемся», то атручаных замежных грамадзян з таго свету не вернеш.

Расіі патрэбныя грошы. Грошы на падтрымку ўладаў марыянетачных рэспублік ва Украіне, Расія заграла ў Сірыі — напрыклад, днямі з'явілася інфармацыя, што РФ накіроўвае дадатковыя сілы на базу ў Хмеймім (хаця яшчэ 11 снежня мінулага года Пуцін урачыста загадваў вывесці расійскія войскі з Сірыі). Плюс санкцыі — і грошай на падтрымку «сяброў» не застаецца. Больш за тое, завязаныя на расійскую эканоміку «сябры» непазбежна атрымаюць аддачу антырасійскіх санкцый па сваёй эканоміцы. Для Беларусі гэтая аддача можа быць вельмі і вельмі балючай.

Расія будзе турбавацца, перш за ўсё, пра сябе. Саюзніку і стратэгічнаму партнёру давядзецца разлічваць на ўласныя сілы і не чакаць падтрымкі (акрамя маральнай). «Падатковы манеўр» Расіі што да карысных выкапняў працягнецца, адзіная нафтагазавая прастора ў межах ЕАЭС — у аддаленай перспектыве, паліва для АЭС прыйдзецца набываць па нармальным кошце. Па ўнутрырасійскіх коштах нафту, газ і ўран могуць атрымаць толькі расійскія рэгіёны, так што калі хочаце — давайце да нас.

Думаю, што Пуцін выклаў усё гэта спакойным дзелавым тонам, абмаляваўшы сітуацыю, як яна ёсць. І ў якасці першага кроку падтрымкі прапанаваў прыняць пасла Бабіча з паўнамоцтвамі спецпрадстаўніка па эканамічных пытаннях. На што Лукашэнку заставалася толькі пагадзіцца.

Пагадзіцца — і думаць, што рабіць далей. Астатнія канкрэтныя пытанні, калі яны ўзніклі ў Пуціна, Аляксандр Рыгоравіч мог нівеляваць адным чынам: «Трэба параіцца з таварышамі, такія пытанні з кандачка не вырашаюцца». А «таварышы» яшчэ не ўвайшлі ў курс справы. Не выключаю, што нядаўнія маштабныя змены ва ўрадзе былі зробленыя Лукашэнкам не толькі «пасля Оршы», але і з перспектывай ухіліцца ад абмеркавання праблемных пытанняў у размове з расійскім кіраўніком.

Па выніках сочынскай размовы Лукашэнка сказаў, што наступная сустрэча з Пуціным пройдзе ў пашыраным складзе з кіраўнікамі ўрадаў. Меркавана, гэта адбудзецца ў Магілёве ў кастрычніку падчас V Форума рэгіёнаў Беларусі і Расіі.

Такім чынам, кіраўнік Беларусі ўзяў паўзу, каб асэнсаваць новыя рэаліі і паспрабаваць выпрацаваць адказ на новыя выклікі. Хаця месца для манеўра ў яго, падаецца, няшмат.

**Сяргей Пульша**
**"Новы Час"**

НАФТАВАЕ ПЫТАННЕ

# НЯ ДУМАЕ АДМАЎЛЯЦЦА АД ПАДАТКОВАГА МАНЭЎРУ

**Беларусь будзе плаціць за расейскую нафту, як і іншыя краіны... Кіраўнік падатковага дэпартамэнту Міністэрства фінанасаў Расеі Аляксей Сазанаў даў інтэрвію агенцтву Reuters, у якім сярод іншага расказаў пра падатковы манэўр у нафтавай галіне і абмежаваньні паставак нафтапрадуктаў у Беларусь.**

Адказваючы на пытаньне пра супрацу зь беларускімі партнэрамі, Аляксей Сазанаў прызнаўся, што гэта «складанае пытаньне».

«Мы ў працэсе абмеркаваньня: ці будзе кампэнсацыя, у якім аб'ёме і якія інструмэнты пры гэтым выкарыстоўваць. Але ў любым выпадку гэта павінен быць мэханізм, калі ўсе будуць бачыць, якую суму штогод мы накіроўваем зь бюджэту Расеі на падтрымку Беларусі. Калі мы падавалі падтрымку ў выглядзе дыфэрэнцыялу ў мытах, ніхто гэтага нават ня бачыў, гэта было схаванае субсыдаваньне беларускай эканомікі».

Паводле расейскага чыноўніка, цяпер, калі праводзіцца манэўр, усё «ўсплывае» на паверхню, больш такога схаванага субсыдаваньня ўжо ня будзе. І запэўнівае, што ніякіх міжнародных пагадненьняў Расея пры гэтым не парушыла.

«Раней гэта было „шэрае поле“, калі грошы губляў фэдэральны бюджэт Расеі, а атрымлівалі нафтаперапрацоўчыя заводы Беларусі. Цяпер адбываецца значнае „абяленьне“ узаемаадносінаў у гэтай частцы, і гэта вельмі добра. Калегі кажуць, што мы несправядліва прынялі „сувэрэннае рашэньне“. Аднак зьмена падатковага заканадаўства не рэгулюецца ў рамках пагадненьня аб Эўразійскім эканамічным саюзе. Гэта наша права вызначаць падатковы рэжым унутры краіны, і ў рамках гэтага права мы яго крыху падкарэктавалі».

Паводле Аляксея Сазанава, Расея на «братэрскіх стасунках» страчвала велізарныя сумы: пачынаючы ад сярэдзіны нулявых, гэта больш за трыльён расейскіх рублёў.

**Пра абмежаваньні паставак нафтапрадуктаў**

Беларусь мае прафіцыт па ўсіх нафтапрадуктах за кошт сваёй нафтаперапрацоўкі. Таму ёй выгадна закупляць расейскія нафтапрадукты — больш танныя з улікам таго, што ў Расеі сацыяльна-адказныя нафтакампаніі і кошты ніжэйшыя, чым экспартная альтэрнатыва, патлумачыў кіраўнік падатковага дэпартамэнту Міністэрства фінанасаў Расеі Аляксей Сазанаў.

«Пастаўляючы нафтапрадукты ў Беларусь, расейскі бюджэт недаатрымлівае экспартнае мыта, бо гэтыя нафтапрадукты ідуць на задавальненьне патрэб беларускага рынку. Па сутнасьці, гэта зноў прыхаваная форма субсыдаваньня цяпер ужо ўнутранага рынку краіны. Калі скончыцца манэўр у нафтавай галіне, такога ўжо ня будзе. Пакуль мы ставім пытаньне пра абмежаваньне паставак. Балянс гэты вызначае Мінэнэрга».

Як заявіў чыноўнік, з улікам падатковага манэўру размова можа ісьці пра аб'ёмы паставак ад 100 да 300 тысяч тон за год, але ніяк не пра 2 мільёны, як ёсьць на гэты момант. Паводле Сазанава, летась Расея страціла на такіх пастаўках 10 мільярдаў расейскіх рублёў, а сёлета аналягічную суму толькі цягам паўгодзьдзя.

Як паведамляла Свабода, у ліпені Дзяржаўная Дума Расеі прыняла законапраект аб паступовым скасаваньні мыта на вываз нафты — так званы падатковы манэўр. Гэта азначае, што беларуская эканоміка пазбавіцца вуглевадароднай «іголкі», на якой сядзела больш за 20 гадоў. Расейская нафта для Беларусі будзе каштаваць столькі ж, колькі і для іншых краінаў.

**Беларусь зарабляе мільярды на экспарце нафтапрадуктаў**

Згодна з дакумэнтам, цягам 2019–2025 гадоў Расея паступова зьнізіць экспартнае мыта на сваю нафту зь цяперашніх 30% да нуля. Адначасова павялічыцца падатак на здабычу гэтай сыравіны. Увынiку, адзначаюць экспэрты, Беларусь ня зможа перапрадаваць расейскія вуглевадароды.

Нават пры цяперашніх ваганьнях нафтавых цэнаў Беларусь выйграе да 2,5 мільярда даляраў за год, закупляючы яе ў Расеі — гэта прыкладна 5% працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту.

З 24 мільёнаў тон расейскай нафты прыкладна 6 мільёнаў рээкспартуецца з нацэнкай у краіны Эўразьвязу. Большая частка з астатніх 18 мільёнаў тон пасьля перапрацоўкі ў Мазыры і Наваполацку таксама ідзе на замежны рынак. Усё гэта прыносіла значныя даходы. Але ад наступнага году нафтавыя субсыдыі пачнуць істотна «абразацца».

**"Радыё Свабода"**

КАРУПЦЫЯ

# ФІНТ ВУШАМІ

**Як у Міністэрстве аховы здароўя зьбіраюцца перамагчы карупцыю? Для барацьбы з карупцыяй патрэбен кантроль грамадзтва, а не стварэньне новых бюракратычных структур.**

11 верасьня Аляксандар Лукашэнка на нарадзе аб праблемных пытаньнях у сыстэме аховы здароўя чарговым разам узгадаў тэму карупцыі ў ведамстве. «Карупцыя здараецца ўсюды, але ў ахове здароўя праблема стала ня кропкавай, а скразной, сыстэмнай. Яна закранула не асобных службовых асоб, а закранула практычна ўсю вэртыкаль», — сказаў кіраўнік дзяржавы. І запытаў міністра аховы здароўя Валерыя Малашко: «Вы мне так вось шчыра скажыце — вы здольны кіраваць міністэрствам?»

Але, гледзячы па ўсім, пасьля скандальных затрыманьняў у чэрвені, у сыстэме аховы здароўя мала што памянялася. Пра гэта сьведчыць скандальная гісторыя з закупам не зарэгістраванай у Беларусі карэйскай вакцыны «Эўпэнта». Пасьля яе прымяненьня памерлі двое дзяцей. Два аўкцыёны дзеля закупу вакцыны чамусьці не адбыліся, у выніку міністэрства купіла прэпарат, прычым не зарэгістраваны ў Беларусі, бяз конкурсу ў адной карэйскай фірмы.

Адразу ж пасьля нарады міністар Малашко, камэнтуючы дзяржаўным тэлеканалам захады, якія зьбіраецца рабіць дзеля барацьбы з карупцыяй, заявіў: «Сёньня мы павінны ўводзіць сыстэму і ўнутранай бясьпекі. Гэта ня столькі міліцэйскія функцыі, так скажам, колькі ў першую чаргу дасьведчаныя эканамісты, якія будуць кантраляваць сярэднеўзважаныя цэны на тую тэхніку, якая набываецца, лекавыя прэпараты, кантраляваць парадак правядзеньня тых ці іншых працэдур».

Гэта проста клясыка бюракратычнага фінту вушамі. Што трэба рабіць, калі ўзьнікла нейкая праблема? Адказ бюракрата, як правіла, заўсёды аднолькавы: трэба стварыць камісію. У дадзеным выпадку плянуецца арганізаваць у ведамстве новую структуру, якая павінна змагацца з карупцыяй. А калі яна ня ўправіцца з гэтай задачай — то стварыць новую структуру, якая будзе сачыць за першай? Гэта на дадатак да КДБ і іншых шматлікіх праваахоўных і кантрольных органаў. У рамках існай сыстэмы чыноўнік паіншаму мысьліць проста ня можа.

Між тым мэтады барацьбы з карупцыяй у сьвеце добра вядомыя. Зьвярнуў бы ўвагу толькі на такія рэчы, як празрыстасьць, галоснасьць у дзейнасьці дзяржаўных органаў, а таксама кантроль з боку грамадзтва з дапамогай незалежных мэдыяў.

Але вось якраз гэта для беларускіх ведамстваў, у прыватнасьці для Міністэрства аховы здароўя, абсалютна непрымальна. Узгадайма тую ж гісторыю з карэйскай вакцынай. Як толькі часопіс «Ежедневник» апублікаваў расьсьледаваньне аб прычынах сьмерці дзіцяці ў Ганцавіцкім раёне пасьля прышчэпкі, то Мінздароўя зьвярнулася ў пракуратуру з патрабаваньнем пакараць журналістаў. Маўляў, «фармат падачы і грубае выкладаньне фактаў у артыкулах, апублікаваных на адным з інтэрнэт-рэсурсаў і перадрукаваных іншымі СМІ, могуць нанесьці шкоду нацыянальнай бясьпецы Рэспублікі Беларусь у сфэры аховы здароўя». То бок ня дзеяньні сыстэмы аховы здароўя, у выніку якіх паміраюць дзеці, наносяць шкоду нацыянальнай бясьпецы краіны, а тое, што пра гэта пішуць СМІ! Фэнамэнальная лёгіка.

Праз два дні пасьля публікацыяў пра гэты скандал з карэйскай вакцынай высокія чыноўнікі Міністэрства аховы здароўя запрасілі журналістаў, каб выказаць сваю пазыцыю. На брыфінг сабралася вялікая колькасьць журналістаў, яны мелі шмат пытаньняў. Аднак чыноўнікі міністэрства зачыталі па чарзе свае заявы і ўцяклі, адмовіўшыся адказваць на пытаньні прадстаўнікоў мэдыяў. Мусіць, ёсьць што хаваць?

Вось якраз непадкантрольнасьць грамадзтву, адсутнасьць зваротнай сувязі з насельніцтвам, закрытасьць і непразрыстасьць, незразумелая сакрэтнасьць і ствараюць глебу для карупцыі. І ніякая новая бюракратычная структура ў рамках ведамства па барацьбе з карупцыяй праблему ня вырашыць.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ТАКАЯ АДУКАЦЫЯ

# В 10-М КЛАССЕ НУЖНЫ ШЕСТЬ УРОКОВ ТРУДА?

**В белорусские школы возвращается профессиональная подготовка. В учебный план 2018/2019 учебного года для учеников 10-х классов в школах, где все предметы изучаются на базовом уровне, введено трудовое обучение — шесть часов в неделю. Означает ли это возвращение советской системы УПК?**

**В профильных классах уроков труда не будет**

Трудовое обучение по шесть уроков в неделю будет введено только для десятиклассников базовых классов. Для 11-классников это планируется со следующего учебного года (2019/2020). В этом году в выпускных классах такого предмета не будет.

Речь об освоении некоторых профессий, это не будут классические уроки труда, на которых мальчиков учат делать табуретки, а девочек — шить юбки.

Как сообщила на пресс-конференции 27 августа заместитель начальника главного управления общего среднего, дошкольного и специального образования, начальник управления общего среднего образования Министерства образования Ирина Каржова, перечень профессий, по которым будет осуществляться обучение, определяется с учетом запросов учащихся и возможностей школы.

В комментарии для Naviny.by пресс-секретарь Минобразования Людмила Высоцкая подчеркнула, что речь о том, что шесть часов в неделю трудом будут заниматься все школьники, не идет.

«В каждой школе, — пояснила Высоцкая, — могут создаваться профильные классы, дети в которых изучают определенные предметы на повышенном уровне. В таких классах не будет предмета „трудовое обучение". Такой предмет будет в базовых классах, которых в целом по стране больше, чем профильных».

Чтобы попасть в профильный класс, средний балл успеваемости у ученика должен быть не менее «6», а оценка по профильному предмету «7» и выше.

Профильное обучение вернули в школы в 2013 году. Система такого обучения создавалась с 2006 года, но была практически ликвидирована в 2008-м в связи с переходом с 12-летнего на 11-летнее среднее образование (это решение критики называли «антиреформой образования»). Тогда были сокращены часы на углубленное и дополнительное изучение профильных предметов.

Теперь профили есть в каждой гимназии, а в лицеи (не путать с профессиональными, бывшими ПТУ) дети поступают сразу по профилям и сдают соответствующие экзамены.

Как правило, если в школе два десятых класса, то один из них — профильный, но есть школы, где профильных классов нет.

С 2015 года в некоторых школах появились и профессиональные профильные классы — педагогические, военно-патриотические, правовые, обучение в которых направлено на подготовку к получению конкретных специальностей.

В прошлом году, например, педагогические классы функционировали в 23 учреждениях образования, где обучались 240 учащихся. Из них только каждому пятому дали рекомендацию для поступления в профильный педагогический вуз, а поступили туда около 16% от общего количества выпускников педклассов, причем больше половины — из одной гимназии.

В Минске есть школы, где в этом году десятиклассникам предложили два варианта обучения — базовый или педагогический класс.

Мама мальчика, который оказался в базовом классе школы № 6 (второй вариант был как раз педагогический класс), рассказала, что детям дали большой выбор специальностей на трудовом обучении.

«В перечне — делопроизводитель, исполнитель художественно-оформительских работ, мастер по маникюру, медицинский регистратор, дизайнер ландшафта, оператор ПЭВМ, официант, парикмахер, визажист, повар, слесарь по ремонту автомобилей и рабочий зеленого строительства. Список, вроде, и большой, но есть ограничения по состоянию здоровья, а в группах количество мест ограничено», — сказал она.

На каждую профессию каждой школе отведено определенное количество мест — одинаковое вне зависимости от спроса. Профессиональной подготовке будет отдан весь учебный день в среду. В субботу в расписании — обычные школьные предметы.

«В нашей школе дети и в прошлом году занимались трудовым обучением в виде профессиональной подготовки. Их ознакомили с несколькими профессиями. Не уверена, что в 10-м классе каждую неделю стоит терять целый школьный день, чтобы обучать детей специальностям, по которым не факт, что они будут работать», — сказала мама ученика.

**Как отличить козу от коровы**

Идея об увеличении количества часов трудового обучения, судя по всему, родилась не в кабинетах Минобразования. В августе 2017 года на Республиканском педсовете о недостатках системы говорил президент.

«Надо посмотреть, вернуться к тому, как это у нас было. У нас в школе мы работали на приусадебных участках. Мы обязаны были летом три недели или месяц проходить трудовое обучение, практику. Не везде это есть. Вот и доработались, что дети на селе не то что корову от быка — козу от коровы отличить не могут. Это же катастрофа», — возмущался Александр Лукашенко.

Вскоре после этого тогдашний заместитель премьер-министра Василий Жарко на совещании в Министерстве образования поставил задачу «повышать качество трудового обучения и воспитания в школе».

«Тех учебных часов в базовой школе, которые есть на сегодняшний день, явно недостаточно. Не говоря уже про 10-11-е классы, где эти часы на трудовое обучение вообще не предусмотрены. В Кодексе об образовании тоже не прописано трудовое обучение в старших классах. Этот вопрос надо продумать», — заявил Жарко.

Продумали так — если в школах нет возможности заниматься профобучением, оно будет проходить в учреждениях профессионально-технического или среднего специального образования, на базе вузов и учреждений дополнительного образования.

В Минобразования подчеркивают, что дети будут иметь выбор профессий. Это означает, что в учебно-производственных комбинатах и профессиональных лицеях прибавится работы, от чего, можно предположить, выиграют педагоги и мастера.

Но поможет ли введение трудового обучения для старшеклассников сориентировать их на продолжение образования в профессиональных лицеях, можно будет оценить лишь через год-другой. Пока же профлицеи испытывают хронические проблемы с набором учащихся, почти ежегодно объявляется дополнительный набор.

Например, в этом году в шести столичных лицеях был недобор на строительные специальности. Оставались места в колледже декоративно-прикладного искусства и в профессионально-техническом колледже строительства и коммунального хозяйства.

К слову, профессиональный лицей № 10 строительства план набора все же выполнил и станет в этом году базой для проведения уроков труда сразу для 25 школ Центрального и Московского районов….

**Елена Спасюк**
**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.09.2018 у 16.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.